Беларуская газета

sumezhzha

Хай ўлады над намі скрыгочуць зубамі
Любі сваю ніву, свой край.
І колькі есць сілы, да самай магілы
Ары, барануй, засявай!

Я КУПАЛА



# СУМЕЖЖА

№ 21 (121) Заснавана ў 1991 годзе. верасень 2001 г.


**Ўладзімір Шык**

# *Пазабытыя і занядбаныя*



Не толькі цяжкай хваробай сваёй 79-гадовай суседкі вельмі заклапочаныя ў апошнія дні жыхары невялікай вёсачкі Сарочына. Не давядзі Бог, хутка здарыцца непапраўнае, везці труну з нябожчыцай прыйдзецца ў аб'езд праз райцэнтр за 20 з лішнім км, хаця да мясцовага могільніка па прамой рукою падаць.

Але, як на грэх, драўляны мост праз раку Мядзелка так хістаецца, што ў любы момант калёсы з канём, не кажучы ўжо пра аўтамабіль, могуць зваліцца ў ваду. Летам пенсіянерка Ніна Храпавіцкая па просьбе жыхароў іншых вёсак Параскі, Шабаны, Дзеравянкі звярнулася ў райвыканкам, мяркуючы, што перад выбарамі пойдуць насустрач той сотні старых, дажываючых у гэтых маляўнічых месцах свой век. І дакладна, прыбылі працаўнікі з калгаса «Сцяг Перамогі» і хутка змайстравалі па краях мастка парэнчы, а зрабіць падпоркі і насып забыліся.

Як расказала, звярнуўшыся да карэспандэнта «Віцебскага кур'ера» Уладзіміра Шыка адна з тутэйшых пенсіянерак, канструкцыя па-ранейшаму зыбіцца, качаецца так, што на яе ступаць ці ўз'ехаць можа толькі рызыкант- каскадзёр. А людзям жа трэба дабірацца да царквы, што знаходзіцца на суседнім беразе ў вёсцы Манькавічы хадзіць да аўтобуснага прыпынку . За выпісанымі дравамі, сенам, па справах у горад, да якога 12 км прыходзіцца ездзіць у аб'езд па даволі разбітай лясной дарозе.

Была у іх на высокім беразе ў Манькавічах свая крама і працавала двойчы на тыдзень: па аўторках і пятніцах. Але звольнілася прадавец і гандлёвай кропкі не стала. Да прыязджаючай аўталаўкі прэтэнзій няма, за выключэннем таго, што старая машына часта ламаецца і запаздвае на некалькі гадзін. Перажываюць старыя, што на іх вачах развальваецца некалі магутны калгас. Жывёлы на ферме, узведзенай побач з могілкамі, засталося галоў сто, хаця не так даўна было ў 6 разоў больш. Але што дзіўнае, што на прайшоўшых выбарах практычна ўсе тутэйшыя жыхары прагаласавалі за А. Лукашэнку.

Каюся, першапачаткова закралася злосць - самі ж падтрымліваюць існуючы курс. Аднак варта іх пашкадаваць і са старонак газеты прызваць мясцовыя ўлады дапамагчы адрамантаваць мост - гэту дарогу жыцця людзям, апынуўшымся пеняволі забытымі-занядбанымі на схіле жыцця.

# *ПАПЯРЭДНІЯ ВЫНІКІ І ЗАКЛЮЧЭНЬНІ МІЖНАРОДНАЙ МІСІІ ПА АБМЕЖАВАНЫМ НАЗІРАНЬНІ ЗА ПРЭЗІДЭНЦКІМІ ВЫБАРАМІ Ў БЕЛАРУСІ*

***Прэзідэнцкія выбары 2001 году ў Рэспубліцы Беларусь ўяўлялі сабой важную магчымасьць правесьці ацэнку ўзроўню разьвіцьця дэмакратыі і грамадзянскай супольнасьці ў краіне. Гэтыя выбары будуць уплываць на будучыя адносіны паміж Беларусьсю і міжнароднай супольнасьцю, уключна з Еўрапейскімі інстытуцыямі. Міжнародная Місія па абмежаваным назіраньні за прэзідэнцкімі выбарамі ў Беларусі (ММАНВ) праводзіла назіраньне за выбарамі на падставе міжнародных стандартаў па правядзеньні дэмакратычных выбараў. Гэтыя стандарты сфармуляваныя ў дакументах АБСЕ і Рады Еўропы. ММАНВ пацьвердзіла важнасьць 4 крытэрыяў, вызначаных у 2000 годзе Парламенцкай тройкай як асноўныя ўмовы дзеля правядзеньня дэмакратычных выбараў і працягу працэсу дэмакратызацыі ў Беларусі. Выбарчы працэс характарызаваўся наяўнасьцю фундаментальных недахопаў, некаторыя з якіх зьяўляюцца сьпецыфічнымі для палітычнай сітуацыі ў Беларусі.***

**Затрыманы пачатак працы па назіраньні і адмова ў выдачы візаў.**

Беларускія ўлады затрымалі запрашэньне назіральнікам ад АБСЕ/БДІПЧ на некалькі тыдняў, а пасьля запозьнена выдалі візы сябрам наглядальнай місіі. У выніку, Місія АБСЕ/БДІПЧ здолела распачаць працу толькі 17-га жніўня. Гэта сталася прычынай таго, што міжнародныя назіральнікі не змаглі прыняць удзел у назіраньні за вельмі важнымі пачатковымі этапамі выбарчага працэсу. Таму АБСЕ/БДІПЧ было вымушанае даслаць на Беларусь толькі Місію па абмежаваным назіраньні за прэзідэнцкімі выбарамі замест звычайнай поўнамаштабнай і поўнай місіі па назіраньні за выбарамі.

З-за затрымкі ў запрашэньні АБСЕ/ БДІПЧ апынулася ня ў стане выконваць свой мандат па назіраньні за поўным працэсам выбараў - «перад, падчас і пасьля выба-раў» (Заключны Будапешцкі дакумент, Глава VIII, параграф 12,1994); і Дэкларацыя Стамбульскага саміту, пар. 26,1999). АБСЕ/БДІПЧ не дазволілі наглядаць за:

1)фармаваньнем выбарчых камісіяў;

2)зборам подпісаў за кандыдатаў;

3) рэгістрацыяй кандыдатаў і далейшым працэсам абскардж-ваньня;

4) першым тыднем з чатырох выбарчай кампаніі і кампаніі ў СМІ.

У дадатак да гэтага двум сябрам Місіі было адмоўлена ў візах і уезьдзе у краіну.

АБСЕ/БДІПЧ ведае аб суверэнным праве любой дзяржавы кантраляваць уезд на сваю тэрыторыю. Аднак для выкананьня мандату незалежнай інстытуцыі, АБСЕ/БДІПЧ павінна мець магчымасьць самастойна вызначаць памер, склад і працягласьць працы групы наглядальнікаў за выбарамі, без залішняга умяшальніцтва з боку дзяржаваў.

У супрацьвагу факту затрымкі запрашэньня Місіі і адмове ў візах яе сябрам з боку МЗС, усе назіральнікі ад ММАНВ, усе кароткатэрміновыя наглядальнікі (КТН) былі неадкладна акрэдытаваныя Цэнтральнай Камісіяй Рэспублікі Беларусь па правядзеньні выбараў і рэферэндумаў (ЦВК). Трэба таксама адзначыць, што МЗС задаволіла ўсе прашэньні КТН аб уязных візах.

**Прававыя асновы правядзеньня выбараў**

Прававой базай для правядзеньня выбараў у Беларусі зьяўляюцца Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, Выбарчы кодэкс, іншыя заканадаўчыя акты, якія рэгулююць пытаньні правядзеньня выбараў, а таксама прэзідэнцкія дэкрэты і пастановы ЦВК. Канстытуцыя прызнае вышэйшасьць агульнапрынятых прынцыпаў і нормаў міжнароднага права адносна беларускіх законаў (арты-кул 8).

Артыкул 79 Выбарчага кодэксу кажа, што выбары прызнаюцца адбыўшыміся толькі калі больш за палову грамадзянаў, унесеных у сьпісы для галасаваньня, прымуць удзел у выбарах, і калі кандыдат набярэ больш за палову галасоў выбаршчыкаў. У іншым выпадку, не пазней чым праз два тыдні праводзіцца другі тур выбараў, у якім прымаюць удзел кандыдаты, якія набралі найбольшы працэнт галасоў. Такія ж патрабаваньні існуюць і да другога туру, і працэс выбараў працягваецца пакуль ня будуць выкананыя гэтыя дзьве умовы.

Выбарчы кодэкс быў прыняты ў лютым 2000 году і дапоўнены ў ліпені таго ж году, незадоўга да парламенцкіх выбараў. Некаторыя з недахопаў, на якія ўказвала АБСЕ/БДІПЧ, былі выпраўленыя, але іншыя больш значныя недахопы засталіся бяз зьменаў.

Калі адмовіцца ад абмяжоўваючага тлумачэньня дадзенага Выбар-чага кодэксу, на падставе яго можна праводзіць дэмакратычныя выбары. ЦВК мае

праватлумачыць Выбарчы кодэкс і іншыя нарматыўна-права-выя акты, якія маюць дачыненьне да выбараў дзеля іх аднолькавага прымяненьня (артыкул 33). Так, 15 чэрвеня 2001 году, Канстытуцыйны Суд даў ліберальнае тлумачэньне палажэньня артыкулу 80 Канстытуцыі Беларусі аб «грамадзяніне Рэспублікі Беларусь, які пастаянна пра-жывае ў Беларусі» і, дзейнічаючы на просьбе ЦВК, прыняў рашэньне аб тым, што Канстытуцыя ня ўтрымлівае ніякіх забаронаў для ЦВК па рэгістрацыі ініцыятыўнай групы Зянона Пазьняка на прэзідэнцкіх выбарах, нягледзячы на тое, што Пазьняк тры гады пражывае па-за межамі тэрыторыі Беларусі.

Праблематычныя і фундаментальна адмоўныя аспекты прававых умоваў выбараў уключаюць у сябе:

**Праўленьне з дапамогай прэзідэнцкіх дэкрэтаў** - нягледзячы на тое, што Канстытуцыя (артыкул 101, параграф 3) увогуле дазваляе прэзідэнту прымаць дэкрэты ў «выпадках скрайняй неабходнасьці і важнасьці», як гэта прадэманстравалі дэкрэты нумар 8,11, і 20, такія дэкрэты парушаюць асноўную мэту канстытуцыйнай нормы, калі прэзідэнт таксама зьяўляецца кан-дыдатам і дэкрэты ўплываюць на працэс выбараў, у прыватнасьці абмяжоўваючы правы іншых удзельнікаў выбарчай гонкі - палітычных партыяў, патэнцыйных кандыдатаў, і грамадзкіх аб'яднаньняў

**Недастаткова эфектыўныя нормы, якія рэгулююць захаваньне таямніцы галасаваньня і адсутнасьць празрыстай працэдуры падліку галасоў** - прасьмерна дазваляльная працэдура датэрміновага галасаваньня: адсутнасьць асобнай працэдуры падліку галасоў пры датэрміновым галасаваньні пераноснымі скрынямі; і поўная адсутнасьць дэтальнай інфармацыі аб выніках галасаваньня на выбарчых участках дзеля абгрунтаваньня вынікаў падліку галасоў на тэрытарыяльным, абласным ўзроўнях і на ўзроўні ЦВК.

**Палажэньні, якія абмяжоўваюць правы назіральнікаў** - забарона на правядзеньне прэсавых канферэнцыяў да заканчэньня дня галасаваньня; адсутнасьць права наглядаць за перадачай выніковых пратаколаў галасаваньня ў камісіі вышэйшага ўзроўню; адсутнасьць права набліжэньня да месцаў, дзе выбаршчыкі атрымліваюць бюлетэні для галасаваньня, дзе правяраюцца іх прозьвішчы, дзе робіцца адпаведны запіс і права на перыядычную праверку кабінаў для галасаваньня.

**Абмежаваньні па правядзеньні свабоднай і справядлівай выбарчай кампаніі** - празьмернае рэгуляваньне выбарчай кампаніі, якое абмяжоўвае магчымасьць кандыдатаў па данясеньні палажэньняў сваёй платформы да выбаршчыкаў і абмяжоўвае магчымасьць правядзеньня публічных дэбатаў падчас выбарчага працэсу. Прэзідэнцкі дэкрэт нумар 11 (ад 7 траўня 2001 году) увёў дадатковыя абмежаваньні на свабоду выказваньня. Такім чынам, палітычныя партыі, прафсаюзы і іншыя зарэгістраваныя арганізацыі могуць арганізоўваць дэманстрацыі з удзелам больш як 1000 чалавек, толькі атрымаўшы папярэдні дазвол ад старшыні абласнога, гарадзкога ці Мінскага гарадзкога выканаўчага камітэту. За парушэньне дадзенага дэкрэту партыя ці прафсаюз, якія зьяўляюцца арганізатарамі дадзенага мерапрыемства, могуць быць забароненыя.

**Абмежаваныя магчымасьці па аспрэчваньні рашэньняў ЦВК** - Выбарчы кодэкс кажа, што толькі абмежаваная колькасьць рашэньняў ЦВК можа быць абскарджаная ў Вярхоўным Судзе, напрыклад, адмова ў рэгістрацыі кандыдата, згода з тым, што кандыдат здымае сваю кандыдатуру без адпаведнай прычыны, ці прызнаньне выбараў несапраўднымі. Удадатак, існуе абмежаваньне ў часе, які па законе выдзяляецца для абскарджваньня, напрыклад, скарга аб непрызнаньні выбараў сапраўднымі павінна быць пададзеная ў ЦВК не пазьней за наступны дзень пасьля выбараў

**Адсутнасьць незалежнасьці выбарчых камісіяў** - Выбарчы кодэкс не прадстаўляе дастатковай інстытуцыйнай незалежнасьці ЦВК і ніжэйстаячых камісіяў ад выканаўчай улады. Кодэкс кажа аб тым, што выканаўчая ўлада павінна падтрымліваць працу выбарчых камісіяў (артыкул 38). Аднак, выканаўчая ўлада прадпрымала спробы кантраляваць і накіроўваць працу выбарчых камісіяў

**Выбарчая кампанія**

Жорсткія абмежаваньні, накладзеныя існуючымі прававымі і адміністрацыйнымі рамкамі правядзеньня выбараў, разам з канстытуцыйнымі паўнамоцтвамі дзейснага прэзідэнта тлумачаць наяўнасьць няроўнага палітычнага спаборніцтва. Кожны кандыдат павінен атрымаць суму дзяржаўных грошай, эквівалентную прыкладна 12 500 даляраў, на правядзеньне кампаніі. Кандыдатам не дазваляецца выкарыстоўваць іншыя фінансавыя крыніцы, акрамя тых, якія паступілі ў агульны выбарчы фонд і якія былі разьмеркаваныя пароўну паміж кандыдатамі. Прэзідэнцкі дэкрэт № 11 яшчэ больш абмежаваў магчымасьць правядзеньня кандыдатамі публічных масавых сустрэчаў са сваімі выбаршчыкамі.

Афіцыйная кампанія пачалася адразу пасьля рэгістрацыі кандыдатаў 14 жніўня. На позьніх стадыях кампаніі праводзіліся нешматлікія мерапрыемствы. У прыватнасьці 4 верасьня ў Мінску адбылася сустрэча дзейснага прэзідэнта (прыкладна 2 500 тысячы ўдзельнікаў), а 3 верасьня сустрэча Ганчарыка прыкладна з 3 000 выбаршчыкаў у Мінску. Ганчарык, і Гайдукевіч праводзілі меншыя па колькасьці прысутных сустрэчы ў рэгіянальных цэнтрах, дзе ў некаторых выпадках улады заплюшчвалі вочы на тое, што арганізатары не атрымалі папярэдняга дазволу на правядзеньне падобных акцыяў. Акрамя гэтых фактаў, ні ў Мінску, ні ў рэгіёнах не было заўважана рысаў правядзеньня сапраўднай кампаніі. Кандыдат Лукашэнка, якога падтрымлівалі дзяржаўныя органы і СМІ, дамінаваў у выбарчай кампаніі.

Тон выбарчай кампаніі стаў больш напружаным і негатыўным з набліжэньнем выбарчага перыяду. У.Ганчарык папярэджваў аб магчымых адбыцця

фальсіфікацыях падчас датэрміновага галасаваньня, казаў пра небясьпеку арышту кіраўніка яго выбарчага штабу, а таксама пра тое, што ЦВК можа зьняць яго з выбарчай гонкі на падставе нейкіх злоўжываньняў Выбарчым кодэксам. Падобным чынам прэзідэнт пагражаў дэпартаваць кіраўніка місіі КНГ АБСЕ і абвінаваціў краіны «зрелой демократии» у «атаке» на Беларусь, што стала вынікам стрымліваньня эканамічнага разьвіцьця краіны. Некаторыя публічныя выказваньні вышэйшых асобаў у выбарчых адміністрацыйных структурах як мінімум ствараюць уражаньні прадузятасьці выбарчых камісіяў, напрыклад, словы старшыні ЦВК Л. Ярмошынай аб тым, што параза дзеючага прэзідэнта на выбарах будзе «асабістай трагедыяй» для яе.

Падчас тыдняў перад выбарамі практычна адсутнічалі бачныя прыкметы публічнага распаўсюджваньня мабілізацыйных перадвыбарчых матэрыялаў Плакаты можна было вешаць толькі на абмежаванай колькасьці адведзеных месцаў інакш яны штодня зрываліся камунальнымі службамі ці, як сьцьвярджалі прадстаўнікі апазіцыйных палітычных партыяў сьпецслужбамі. Аднак ЦВК здолела праінфармаваць выбаршчыкаў аб працэдуры галасаваньня праз сваю публічную інфармацыйную кампанію з выкарыстаньнем палітычна нейтральных плакатаў і тэлевізійных ролікаў

МАНВ была таксама глыбока занепакоена ўзроўнем перасьледу палітычнай апазіцыі і ўнутраных назіральнікаў Былі зафіксаваныя факты канфіскацыі офіснага абсталяваньня і агітацыйных матэрыялаў, частых падатковых праверак і затрыманьня асобаў, у якіх былі знойдзеныя матэрыялы, кваліфікаваныя як абразлівыя і скіраваныя супраць прэзідэнта. Усе гэтыя інцыдэнты аказвалі негатыўны ўплыў на і так мінімальны ўзровень публічнай агітацыі.

У краіне назіраліся значныя падвышэнні колькасьці і крыніцаў апытаньняў грамадзкай думкі непасрэдна перад 13 жніўня, днём, калі па законе наступіла забарона публікацыяў вынікаў грамадзкага апытаньня. Апытаньні адлюстроўвалі шырокія разыходжаньні паміж інформацыйнымі крыніцамі, даступнымі для насельніцтва ў СМІ. Вынікі апытаньняў, надрукаваных удзяржаўных масмедыя, напрыклад, у «Народной газете» ад 30 жніўня, указвалі на «гарантаваную перамогу Лукашэнкі ў першым туры (65-70%)». І, наадварот, вынікі апытаньняў, надрукаваныя ў незалежных, ці апазіцыйных СМІ, паказвалі на меншы адрыў у галасах апазіцыйных кандыдатаў

**Сродкі масавай інфармацыі**

Дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі дамінуюць у сьферы электронных і друкаваных СМІ. Дзяржаўныя радыё і тэлебачаньне зьяўляюцца асноўнымі крыніцамі інфармацыі аб палітычным жыцьці краіны. Іншыя электронныя СМІ, якія маюць значны ўплыў, такія як расійскія тэлевізійныя каналы, а таксама некаторыя FM-радыёстанцыі не прадстаўлялі выбаршчыкам дастатковай інфармацыі адносна выбарчага працэсу ажно да апошняга тыдня кампаніі. Адзінай альтэрнатыўнай крыніцай палітычнай інфармацыі зьяўляліся незалежныя друкаваныя СМІ. Аднак з-за больш высокіх коштаў у параўнаньні з коштамі надзяржаўныя газеты і абмежаванага распаўсюджваньня яны аказаліся ў невыгодным становішчы, што часта перакрывала доступ да іх шырокаму грамадзтву.

Наглядальная рада па інфармацыйных спрэчках, створаная пры ЦВК, мае мандат разглядаць усе скаргі, звязаныя з правядзеньнем кампаніі ў масмедыя. Рада разглед-зела шэраг скаргаў апазіцыйных кандыдатаў аб няроўных умовах спаборніцтва. Паводле інфармацыі, атрыманай МАНВ ад ЦВК, толькі адна скарга, якая тычылася выступу кандыдата, была задаволеная на карысьць кандыдата Гайдукевіча. Ён падаў скаргу ў сувязі з інтэрв'ю прадстаўніка расійскай Дзяржджумы Жырыноўскага, якое было паказанае па Беларускім тэлебачаньні і надрукаванае ў «Народной газете». У гэтым інтэрв'ю Жырыноўскі абвінаваціў Гайдукевіча ў шэрагу неправамерных дзеяньняў. 27 жніўня назіральная рада ЦВК задаволіла скаргу Гайдукевіча і абавязала Беларускае тэлебачаньне і «Народную газету» прадставіць кандыдату бясплатны эфірны час і газетную плошчу дзеля абвержаньня абразлівай інфамацыі. Замест таго, каб выканаць рашэньне ЦВК, 28 жніўня беларускае тэлебачаньне зноў паказала згаданае інтэрв'ю, такім чынам робячы насьмешку з рашэньня ЦВК.

Незалежныя СМІ знаходзіліся пад эканамічным і прававым ціскам ад пачатку кампаніі. Варта адзначыць часовае прыпыненьне дзейнасьці друкарні «Мэджык», у якой выдаюцца агульнанацыянальныя і незалежныя газеты. Праз некалькі дзён «Мэджык» усё ж узнавіла сваю працу, але на чале з новым дырэктарам, які больш спачувае ўладам і які пазьбей прадпрыняў дзеяньні, падобныя да цэнзуры. МАНВ задакументавала больш за 20 вы-падкаў парушэньняў свабоды выказваньня і інфармацыі, датычныя незалежных і апазіцыйных СМІ падчас перадвыбарчага перыяду. Гэтыя парушэньні ўключалі шматразовыя праверкі падатковымі інсьпекцыямі, канфіскацыя і крадзеж камп'ютарнага абсталяваньня, канфіскацыю газетных накладаў, закрыцьцё рэдакцарскіх офісаў, умяшальніцтва ў рэдактарскую працу, што падобна на цэнзуру, і затрыманьне журналістаў.

Паводле паведамлень-няў СМІ, 4 верасьня падчас публічнай сустрэчы ў Мінску з 2 500 выбаршчы-камі з усёй краіны прэзідэнт Лукашэнка выказаў пагро-зы наступнага кшталту: «...Мы должны все это перетерпеть... Если только мы сейчас прикроем кого-то... Они на это нарываются... Они на это идут... От Вика до этих желтых страниц... Мы не должны сейчас это делать... Мы призовем их к ответу после выборов...».

МАНВ праводзіў маніторынг 4 тэлевізійных каналаў і 1 радыёстанцыі, а таксама 8 друкаваных СМІ: дзяржаўнага беларускага тэлебачаньня, 1-га каналу дзяржаўнага беларускага радыё, 3 расійскіх тэлевізій-

ных каналаў - ОРТ, РТР і НТВ, 4 дзяржаўных газет - «Советской Белоруссии», «Рэспублікі», «Звязды» і «Народной газеты», 4 незалежных газет - «Народнай волі», «Нашай свабоды», БДГ і «Комсомольской правды в Белоруссии».

Было выкананае патрабаваньне закону аб прадстаўленьні бясплатнага і платнага эфірнага часу, а таксама газетнай плошчы на роўных умовах для ўсіх кандыдатаў з мэтай звароту да выбаршчыкаў Прэзідэнт Лукашэнка вырашыў адмовіцца ад гадзіны эфірнага часу для папярэдняга запісанага звароту, які быў прадастаўлены ўсім кандыдатам на дзяржаўным тэлебачаньні. Аднак 5 верасьня «Советская Белоруссия», дзяржаўная газета з самым вялікім накладам, надрукавала перадвыбарчую платформу Лукашэнкі, амаль удвая павялічыўшы наклад: з 350 тысяч да 629 тысяч. У Мінску газета была распаўсюджана бясплатна.

Маніторынг, праведзены МАНВ, паказвае высокі працэс асьвятленьня кампаніі прэзідэнта Лукашэнкі ў дзяржаўных СМІ, пераважна ў пазітыўным тоне. Большасьць дзяржаўных газетаў і дзяржаўнае тэлебачаньне толькі між іншым узгадваюць кандыдатаў і ў асноўным ў негатыўным тоне. Дзейнасьць апазіцыйных кандыдатаў асьвятляецца абмежаванай колькасьцю апазіцыйна арыентаваных газетаў Так, выбаршчыкі былі пазбаўленыя мажлівасьці атрым-ліваць дастатковую інфармацыю пра кандыдатаў са СМІ.

**Назіральнікі**

Парасонавая структура «Беларуская ініцыятыва Незалежнае назіраньне» (НН) здолела прыцягнуць да маніторынгу прэзідэнцкіх выбараў больш за 1000 унутраных наглядальнікаў іншая група грамадзкіх аб'яднаньняў на чале з Беларускім патрыятычным саюзам моладзі (БПСМ) і падтрыманая Рэспубліканскай каардынацыйнай радай таксама зарэгістравалі тысячы назіральнікаў.

Падчасапошняй стадыі перадвыбарчага працэсу Міністэрства юстыцыі выступіла з заявай супраць «Вясны», аднаго з вядучых грамадзкіх аб'яднаньняў у «Незалежным назіраньні», датычных парушэньняў працэдуры вылучэньня назіральнікаў. «Вясна» і 7 іншых грамадзкіх аб'яднаньняў атрымалі папярэджаньне за парушэньні, якія як быццам мелі месца. Падчас паседжаньня ЦВК 8 верасьня, на якім разглядаліся гэтыя выпадкі, старшыня «Вясны» прапанаваў вырашыць праблему ў той самы вечар, але прапанова была адкінутая. У выніку ЦВК пазбавіла рэгістрацыі каля 2 000 назіралькам колькасьці галасоў і адлюстраваньнем паасобных вынікаў у пратаколе. Назіральнікі ня маюць доступу да рабочых пратаколаў. Толькі агульная лічба з усіх скрыняў запісваецца ў канчатковы і афіцыйны пратакол выбарчай камісіі, які прадстаўляецца назіральнікам. Гэтыя выніковыя пратаколы не зьмяшчаюць інфармацыю аб агульнай колькасьці бюлетэняў, якія знаходзіліся ў кожнай скрыні для датэрміновага галасаваньня, галасаваньня дома і тых, якія знаходзяцца на ўчастку ў дзень галасаваньня.

МАНВ засведчыла правядзеньне датэрміновага галасаваньня на больш чым 600 выбарчых участкаў краіны, у якім у сярэднім удзельнічала 18% выбаршчыкаў. Больш за 30% выбаршчыкаў прыйшлі ў Гродзенскай вобласьці. Напрыкан-цы датэрміновага галасаваньня 8-га верасьня ЦВК абвясьціла, што ў датэрміновых выбарах прынялі ўдзел 14.7% выбаршчыкаў.

Амаль на 90% выбарчых участках, якія наведалі прадстаўнікі МАНВ, выбарчыя бюлетэні мелі подпісы на адвароце, зробленыя на-пярэдадні сябрамі камісіі ў парушэньне Выбарчага кодэксу Унутраныя назіральнікі не прысутнічалі на 49% выбарчых участкаў, якія наведалі прадстаўнікі МАНВ. На 45% выбарчых участкаў прысутнічалі людзі, якія ня мелі на тое дазволу, а ў бальшыні момантаў (93%) прысутнічалі міліцыянты.

**Дзень выбараў і падлік галасоў**

Прадстаўнікі МАНВ наведалі больш за 1000 выбарчых участкаў 9 верасьня. Наступныя каментары заснаваныя на прыблізна 80% апрацаваных звестак з выбарчых участкаў Аднак, на час напісаньня гэтай заявы, МАНВ не апрацаваў каментары па прадстаўленых справаздачах.

Міжнародныя назіральнікі ацанілі правядзеньне выбараў на «добра» ці «выдатна» на 70% выбарчых участкаў, якія яны наведалі. На 86% выбарчых участкаў галасуючых прасілі паказаць свае дакументы; выбаршчыкі ставілі свой подпіс у журнале у 87% выпадкаў, а таямніца галасаваньня захоўвалася ў 79% выпадкаў. Аднак, на 26% выбарчых участкаў, якія наведалі прадстаўнікі МАНВ, назіралася групавое галасаваньне; у 45% выпадкаў бюлетэні былі падпісаныя на адвароце да пачатку галасавання; а ў 15% выпадкаў прысутнічалі людзі, якія не мелі на гэта дазволу і аказвалі дапамогу або накіроўвалі працу камісіі.

На час падрыхтоўкі гэтай папярэдняй заявы МАНВ яшчэ не апрацаваў справаздачы аб падліку галасоў, якія прадставілі назіральнікі.

**Складаньне вынікаў**

Палажэньні Выбарчага кодэксу аб складаньні вынікаў галасаваньня на раённым, абласным і нацыянальным узроўнях не зьяўляюцца дастаткова празрыстымі, каб забясьпечыць правядзеньне незалежнай праверкі выбаршчыкамі, прадстаўнікамі кандыдатаў і назіральнікамі. ЦВК мае абавязак надрукаваць толькі агульныя падсумаваньні вынікаў галасаваньня на ўсёй краіне без прадстаўленьня на ўзроўні кожнага раёна і вобласьці дэтальных вынікаў галасаваньня на кожным выбарчым участку з мэтай абгрун-таваньня агульных абвешчаных вынікаў. Падчас папярэдніх выбараў гэты недахоп празрыстасьці выклікаў пытаньні аб сапраўднасьці абвешчаных вынікаў На жаль, улады Беларусі адмовіліся выпраўляць гэты фундаментальны недахоп у выбарчым працэсе ў краіне на час прэзідэнцкіх выбараў

# ПРЭЗІДЭНТ УСІХ КРЭОЛАЎ

Валерка Булгакаў

## *Улада і апазіцыя на выхадзе з выбараў*

**Выбарчая кампанія пакіне добры след у калектыўнай памяці беларусаў. Яна прыцягнула да сябе ўвагу ўсіх пластоў грамадзтва. І хоць яно ў каторы раз аказалася падзеленым не проста светапоглядна, а культурна, тое, што беларускія грамадзяне некалькі месяцаў цалкам былі захоплены перыпетыямі айчыннай палітыкі, нашмат важнейшае.**

**Прэзідэнцкія выбары прывучаюць людзей быць грамадзянамі ўласнай дзяржавы і тым самым фармуюць незалежніцкія настроі ў масах. Людзі пачынаюць не толькі жыць, але і мысліць у каардынатах незалежнай дзяржавы. Выбары ствараюць рэальную палітычную гісторыю краіны. Мінецца яшчэ крыху часу, і савецкая эпоха будзе на масавым узроўні ўспрымацца ўсяго толькі як перадгісторыя незалежнай Беларусі.**



### Чаму Ганчарык стаў адзіным?

І Ганчарык, і Домаш сваім з'яўленнем на палітычнай сцэне былі абавязаны структурам беларускага трэцяга сектару. Толькі Ганчарык быў кандыдатам ад «савецкага - постсавецкага» трэцяга сектару, які ў агульных рысах сфармаваўся пры канцы існавання СССР, а Домаш - ад «новага незалежніцкага» трэцяга сектару, які ўзнік пасля Лістападаўскага перавароту 1996 г. Гэтае адрозненне тлумачыць і памяркоўнасць пазіцый Ганчарыка, і большую колькасць подпісаў у сваю падтрымку, сабраную Домашам.

Тыя структуры, якія ўвасабляе Ўладзімер Ганчарык, былі за савецкім часам зародкамі грамадзянскай супольнасці пры аўтарытарнай палітычнай сістэме. Яны ў многіх праявах функцыянуюць не як рэальныя, а як *сімвалічныя* сацыяльныя інстытуты. Парадаксальна, але перамога лукашэнкаўскага рэжыму над прафсаюзнай імперыяй Ганчарыка можа азначаць не падрыў жыццядзейнасці дэмакратычных сілаў, а хутчэй ачышчэнне дэмакратычнага лагеру ад яго нежыццяздольных структурных элеметаў. У сваю чаргу, зняццё Сямёна Домаша з перадвыбарчай гонкі ў пэўнай ступені вывела з-пад удару структуры «новага трэцяга сектару», які знаходзіцца ў фазе станаўлення і не быў цалкам гатовы да змагання.

Пасля перамогі беларускі рэжым захоча паквітацца з «мяцежнай» Федэрацыяй прафсаюзаў беларускай і яе вышэйшым кіраўніцтвам. Але канфлікт паміж дзяржапаратам і прафсаюзамі не абяцае быць лёгкім, а перамога лукашэнкаўцаў - беззасцярожнай. У кожным разе, пры такім сцэнары развіцця падзеяў адказнасць за дэстабілізацыю палітычнай сітуацыі ў Беларусі ўскладзецца на рэжым.

### Тры сілы, чатыры кандыдаты

Постаць «кандыдата ад трэцяй сілы», Гайдукевіча, найбольш яскрава сведчыць пра наяўны ва ўладаў патэнцыял для маніпуляцыі грамадзкай думкай. Былі ў абозе Лукашэнкі і іншыя псеўдакандыдаты, якіх адсеялі па дарозе. А Гайдукевіч дабіўся рэгістрацыі, бо з'яўленне яго прозвішча ў выбарчых бюлетэнях выглядала найбольш праўдападобна.

Фактычна, вынікі збору подпісаў за кандыдатаў паказалі, што ў краіне маюцца чатыры рэальныя палітычныя сілы. Тры з іх досыць стабільныя: адміністрацыйна-гаспадарчы аппарат, стаўленік кланаў якога - Лукашэнка (395 тыс. подпісаў), незалежнае беларускае грамадзтва ( Домаш, 161 тыс. подпісаў), шэры бізнес, цесна звязаны з карумпаванай часткай дзяржаўнага апарату (Гайдукевіч, 136 тыс. подпісаў). Чацвёртая ж - гэта ўтвораны бягучай кан'юнктурай хісткаваты альянс расчараванай у палітыцы Лукашэнкі наменклатуры, прыватнага бізнесу, «старога трэцяга сектару», а таксама той часткі дзяржаўных службоўцаў, інтарэсы якіх палітыка Лукашэнкі ставіла пад пагрозу. Уладзімер Ганчарык сабраў 123 тыс., але цяжка прадказаць доўгатрываласць гэтага палітычнага хаўрусу. У той жа час перспектывы росту палітычнае вагі незалежнага беларускага грамадзтва і Домаша як палітыка ў прыватнасці, залежыць ад таго, наколькі чуйна змогуць яны працаваць з гэтай чацвертай сілай.

### Лукашэнка і лукашэнкаўцы

Лукашэнка ўзору 2001 году - гэта не Лукашэнка ўзору году 1994-га. Мінскае асяроддзе, у якім ён круціцца вось ужо дзесяць галоў, моцна на яго паўплывала. Фактычна, ужо цяпер «гарант Канстытуцыі» часткова ўзяў на ўзбраенне рыторыку нацыянальна-дэмакратычных сілаў. Тую самую рыторыку ў характэрнай для яго абсурднай манеры падхапіла постчыкінскае БТ.

Выбары паказалі, што дэмакратычныя сілы недаацэньваюць інтэлектуальны патэнцыял лукашэнкаўцаў. Негледзячы на выкрыцці ў справах зніклых (забітых?) палітыкаў і прадпрымальнікаў, медыйныя скандалы з удзелам перабежчыкаў з лукашэнкаўскага лагеру. Цягам перадвыбарнага марафону ўвесь час складалася ўражанне, што дэмакраты так і не здолелі перахапіць у лукашэнкаўцаў ініцыятыву. Тым удавалася ўсё задуманае - дабіцца нейтралітэту новапаўстаных бізнес-элітаў, заручыцца падтрымкай Расіі і іншых краінаў СНД, разрэкламаваць у СМІ эканамічны ўздым, укідваннем тузіну псеўдакандыдатаў збіць з панталыку незалежныя СМІ, адных падкупіць, другіх падмануць. Карацей, усё што ўдалося пару гадоў раней іхным расійскім, украінскім, казахскім калегам.

Перадвыбарная кампанія таксама паказала моц бюракратычнай сістэмы, умацаванай Лукашэнкам.

### Прэзідэнт усіх крэолаў

Стойкі лукашэнкаўскі электарат - гэта крэалізаваная частка беларускага грамадства. У беларускі кантэксце з крэоламі не варта атаясамліваць толькі этнічных



беларусаў, якія дагэтуль не набылі акрэсленай нацыянальнай ідэнтычнасці. Трэба падысці шырэй: крэолы- носьбіты свядомасці, сфармаванай яшчэ за часоў данацыянальнага грамадства. Юрый Сівакоў, Урал Латыпаў і Аляксандр Лукашэнка ў гэтым сэнсе мала розняцца.

Расійска - і піджынамоўныя крэолы з пашпартамі грамадзян Рэспублікі Беларусі непазбежна ўтвараюць асноўны рэсурс палітычнага рэжыму, створанага Лукашэнкам. Дзякуючы сваёй культурнай непаўнавартасці і псіхалагічнай няўстойлівасці яны асабліва падатныя ўсялякім маніпуляцыям з палітычнымі мэтамі. Толькі крэолы могуць забяспечыць стварэнне такой канструкцыі ўлады, якая магла б утрымацца адносна вялікі гістарычны прамежак часу, дасягненне «пераемнасці ўлады», пра што так марыць Лукашэнка. Лукашэнкаўскія рэферэндумы 1995 і 1996 г., апрача тымчасовых палітычных эфектаў, знялі ўсе абмежаванні з рэпрадукцыі крэолаў у маштабе ўсяго грамадства, ператварыўшы тым самым гэтую рэпрадукцыю ў адну з найважнейшых мэтаў дзяржаўнай палітыкі.

Крэольская маса - не столькі пагроза для дзяржаўнасці Беларусі, чаго так баялася нацыянальная інтэлегенцыя, колькі зарука стабільнасці і непарушнасці аўтарытарызму. Крэолы не пагроза незалежнасці найперш таму, што яны палітычна бязвольныя і імі лёгка маніпуляваць. З тае ж прычыны яны не нясуць пагрозы палітычнаму рэжыму і ягонаму кіраўніку.

Расійска-беларуская інтэграцыя для беларускіх крэолаў мае сімвалічнае значэнне. Яна забяспечвае ім пазітыўны эмацыянальны тонус, стварае ілюзію супадзення іх прыватных і дзяржаўных інтарэсаў. Для задавальнення гэтай ілюзіі і сам Лукашэнка працягвае трымаць у сваім атачэнні жменьку цвердалобых русафілаў. Але пры гэтым адчужэнне Беларусі і Расіі будзе нарастаць у меру ўмацавання новай расійскай нацыянальнай ідэнтычнасці.

Як аўтарытарная дзяржава, Беларусь няздольная да інтэграцыі. Утварэнне стабільных супольных структур магчымае толькі пры дэмакратычным ладзе і на дэмакратычным грунце. Інтэграцыя ў рамках Еўрасаюзу гэтаму прыклад. Аўтарытарная ж дзяржава выкарыстоўвае інтэграцыю для здабыцця дадатковых рэсурсаў для ўнутранага ўмацавання рэжыму.

### Сістэма апазіцыі

Выбары пакуль не прывялі да ўзбуйнення беларускіх палітычных сілаў. Апазіцыя застаецца раздробленаю, а «самотныя палітыкі» па-ранейшаму маюць, прынамсі, не меншую палітычную вагу, чым лідэры партый. Аднак узбуйненне палітычных структураў дэмакратычных сілаў Беларусі усё роўна адбудзецца ў агляднай будучыні, бо ў яго аснове ляжыць не чыйсьці валюнтарызм, а аб'ектыўны механізм самарэгуляцыі палітычнага рынку. Нешта падобнае назіраецца ў эканоміцы: пасля першаснага назапашвання капіталу сярод мірыядаў дробных-драбнюсенькіх суб'ектаў гаспадарання крышталізуюцца эканамічныя структуры большай вагі. Выйграе той, хто першы зразумее непазбежнасць узбуйнення.

Новыя суперпартыі маглі б узначаліць дэмакратычныя лідэры, якія сталі вядомыя грамадству дзякуючы сёлетняй прэзідэнцкай кампаніі. Палітычную партыю, якая б выступала за сацыяльна арыентаваную рынкавую эканоміку, заваёўвала сімпатыі прамысловых

работнікаў і службоўцаў дзяржаўнага апарату («сацыял-дэмакратычную» ў еўрапейскай тэрміналогіі), мог бы ачоліць фаварыт дэмсілаў Уладзімер Ганчарык або нехта з ягонага выбарчага штабу (напрыклад Валянціна Палевікова, якая мае досвед партыйнага будаўніцтва). У сваю чаргу, Сямён Домаш мог бы стаць на чале партыі, якая б вызнавала кансерватыўныя вартасці і пры гэтым выступала за ліберызацыю ўсіх сфераў жыцця нашага грамадзтва.

Рэарганізацыя палітычнага поля магла б вырашыць шэраг праблемаў, якія навіслі над партыямі дэмакратычнай арыентацыі. Канец гэтага году можа азначыцца крызісам у БНФ, а таксама ў АГП.

### У чаканні культурнай рэвалюцыі

Выбары выразна давялі, што Лукашэнка мае найслабейшыя пазіцыі не там, дзе меркаваны «расійскі дэмакратызуючы ўплыў» наймацнейшы, а там, дзе найлепш захаваліся беларуская культура і каталіцкі антыімперскі этас. Пра гэта сведчаць звесткі маштабнага сацыялагічнага даследвання, праведзенага ў сярэдзіне лета на замову амерыканскага International Republican Institute/

### Падтрымка Лукашэнкі ў рэгіёнах

| | Менск | Менская вобл. | Берасцейская вобл. | Гарадзенская вобл. | Віцебская вобл. | Магілёўская вобл. | Гомельская вобл. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Давяраю | 45 % | 50 % | 67 % | 40 % | 48 % | 52 % | 67 % |
| Не давяраю | 48 % | 41 % | 25 % | 42 % | 40 % | 35 % | 27 % |
| Буду галасаваць | 32 % | 38 % | 50 % | 30 % | 39 % | 44 % | 51 % |

Найменш давяралі Лукашэнку на Гродзеншчыне (40 %). Мяркуючы па ўсім, роўна такі ж нізкі паказчык падтрымкі ён меў у заходніх-беларускамоўных і або каталіцкіх - раёнах Міншчыны і Віцебшчыны. Найбольшым жа даверам ён цешыўся не на радзімай Магілёўшчыне (52 %), а на патрыярхальнай Гомельшчыне і дээтнізаванай Берасцейшыне (67 %). На Гомельшчыне, як вядома, дакапіталістычныя формы аграрнай вытворчасці пратрымаліся найдаўжэй , а каталіцкі элемент, які распаўсюджваўся ў Беларусі з паўночнага захаду, найслабейшы. А на Берасцейшчыне этнічна ўкраінскі элемент яшчэ да канца не ператварыўся ў беларускую нацыю, а пазіцыі праваслаўя выключна моцныя. Вось жа, Лукашэнка найбольш папулярны там, куды мадэрнізацыя, а з ёй і беларуская нацыянальная ідэя прыйшлі найпазней - пасля другой сусветнай вайны (тады, як на Віленшчыну, Гродзеншчыну, Міншчыну - яшчэ на зломе XIX і XX стагоддзяў). Цікава і тое, што Брэст і Гомель на пачатку XX ст. былі проста павятовымі цэнтрамі Магілёўскай і Гродзенскай губерняў.

Дзяржаўная палітыка рэпрадукцыі крэолаў нясе выклік для людзей беларускай культуры. Уся гісторыя беларусаў у XX ст. збольшага зводзіцца да рэпрадукцыі нацыянальных элітаў як зарукі існавання нацыі. У сёньняшніх умовах нацыянальныя эліты нарэшце дабіліся патрэбнай самадастатковасці, але нацыянальная энэргія ў выглядзе інфармацыйных, культурных, літаратурных і іншых ініцыятываў і праектаў па-ранейшаму скіраваная на іх рэпрадукцыю. Таму на парадку дня з надзвычайнай вастрынёй устае пытанне пра стварэнне нацыянальнымі элітамі *нацыянальных масаў*. Без іх умацавання беларускі нацыяналізм будзе захоўваць імідж *кабінетнага праекту*.

Стварыць аўтарытэты, прызнаныя ўсім грамадзтвам, здольная культура. Прыгадваецца, што ў Польшчы часоў ваеннага стану падпольна выйшлі пару тысяч кніг. Вялікая колькасць польскіх артыстаў, мастакоў, вядомых людзей байкатавала польскае тэлебачанне, нават ягоныя культурныя праграмы. Стваралася альтэрнатыўная гуманістыка, шырыліся падпольныя перыёдыкі, ішла адукацыйная праца. Беларускі аўтарытарызм не разбурыць без аналагічнай арганічнай дзейнасці. Духоўны падмурак будучых палітычных зменаў мусіць закладацца ўжо сягоньня. Стратэгічнай мэтай дэмакратычных сілаў бачыцца не толькі разбурэнне лукашэнкаўскага рэжыму - гэтае можа зрабіць і няўмольны час, але і забеспячэнне незваротнасці працэсаў дэмакратызацыі нашага грамадзтва. Апошняе немагчымае без пераводу крэалізаванай грамады з расійскай культуры ў беларускую.

Пакуль жа пад незалежнасцю будзе разумецца толькі палітычны суверэнітэт без эканамічнай і культурнай незалежнасці, Беларусь застанецца ў цяперашнім паўвасальным стане. Між тым гістарычная сітуацыя і геапалітычны расклад сілаў даюць шанец на тое, каб трэцця прэзідэнцкія выбары сталіся выбарамі першага прэзідэнта беларусаў, а не крэолаў.

**З часопісу «ARCHE-Скарына», №4, 2001 г.**

**Заснавальнік: Пастаўская раённая арганізацыя ТБМ імя Ф. Скарыны**

Рэдактар: **Міхал Гіль**

Адрас рэдакцыі: 211840, г. Пастаvы, вул. Бальнічная, д.11. Тэл. (02155) 2-17-84
E-mail: gil@postavy.belpak.vitebsk.by
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць інфармацыі

Распаўсюджваецца бясплатна.
Наклад 299 асобнікаў.
Надрукавана на абсталяванні
нашых сяброў